№ 76. 3 лістапада 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрациі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

## Больш 1500 расейскіх палонных. У Вялікай Валахіі удачные бітвы.

### 2 лістапада.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У паўночных ваколіцах Соммы агонь артылеры часьцю значна аднавіўся. Англіцкае наступленьне на поўначы ад Курсэлет лёгка адбіто. Францускіе штурмы на адрэзку Лебэф—Ранкур далі ворагам невялікую удачу. На паўночным усходзі ад Морваль і на паўночна-заходнім краю лесу Ст. П'ер Васт гэтые штурмы, наагул, вельмі крывава адбіты. Ня гледзячы на сільны адпор французоў, нашае войско ўварвалося у паўночную часць Сайі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Агневая бітва на-права ад Маасу не раз даходзіла вялікай сілы; асабліва французы кіравалі цяжкі, нішчучый агонь проці крэпасьці Во, каторую мы па загаду і без націску ворагоў пакінулі ўжо ў папярэднюю ноч, ўзарваўшы загадзя важнейшые часьці.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* У армейскай групе Лінсінгена вэстфальскіе і усходня-прускіе войскі здабылі штурмам расейскіе пазыціі пры Вітомежы і на поўдні ад яго, на левым березі Стохода. Апрыч вялікіх крывавых страт ворагі утрацілі палонными 22 афіцэроў, 1508 салдатоў, 10 кулемётоў і 3 мінамёты. Нашы страты—невялікіе. Далей, на палудні ад Александроўкі, з удачнай разведкі мы прывялі 60 палонных.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля*: У Карпатах — на поўначы ад Дорна Варта — удачные опэраціі проці расейскіх пярэдніх атрадоў.

На ўсходняй часьці Семіградзкаго фронту палажэньне не змянілося. Румынскіе атакі проці злучэных войск, уварваўшыхся цераз праходы Альт-Шанц і Прэдэаль, крывава эдбіты. Мы ўзялі ў палон 8 афіцэуоу і 200 салдатоў. На палудзенным усходзі ад праходу Чырвонай Башні трываюць удачные для нас бітвы.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Констанцу ворагі дарэмна абстрэлівалі з мора.

*Македонскі фронт*: У закруце Чэрнай і на поўначы ад Нідзэ Планіна адбіты наступленьня сэрбоў. На фронці Струмы—вострые бітвы пярэдніх атрадоў.

---

**Два гады турэцкай вайны.**

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). 29 кастрычніка мінулі два гады, як у вайну ўмешалася Турэччына. З гэтай прычыны Гіндэнбург і Энвэр-паша абменяліся сэрдэчнымі тэлеграмамі.

**Абстрэл Рэймса.**

ПАРЫЖ. Ад 25 кастрычніка немцы ізноў пачалі абстрэліваць Рэймс. У гэты дзень выпушчэны 250 гранат. 26 кастрычніка абстрэл трываў увесь дзень і 27 пачаўся нанова.

---

## З апошніх дзён.

—8—

### Нямецкіе апавешчэньня.

31.X. **Заходні тэатр**:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Дрэнная пагода аграніўывала баевую работу на Сомме. Атрады ворагоў, наступаўшые на нашы пазыціі на паўночным усходзі і усходзі ад Лебэф, адбіты агнём. Атака аднэй французкай роты ў ваколіцах Лямэзонэт гэтак сама адбіта. Неўдаліся і спробы ўварвацца ў нашы новые акопы на палудні ад Б'яш. Атака вялікіх францускіх сіл проці Абленкур і наабапол Шольн і Ліон пад нашым зашчытным агнём не развінулася.

*Фронт нямецкаго Насьледкіка*: У ваколіцах Маасу было гэтак сама спакойна, як і ў тые дні. Толькі каля Ст.-Міэль артылерыйскі агонь момэнтамі даходзіў вялікшай сілы.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: У досьвітках маскалі пасьля каротнаго сільнаго агня атакавалі нашы пазыціі на Шчары, але былі крывава адбіты. На палудзенным заходзі ад Бэрэстэчка, на верхнім Стыры, стычкі перад акопамі былі для нас удачны. На ўсходнім березі Нараёўкі турэцкае войско здабыло штурмам некольки акопоў ворагоў на паўночным заходзі ад Молохова. На заходзі ад лініі Фолов—Красналесье нямецкіе палкі здабылі важные пазыціі ворагоў і адбілі ўсе контратакі. Узяты 4 афіцэры, 170 салдатоў і 9 кулемётоў. На палудзенным заходзі ад Станіслава націск расейскіх войск нічога не дайшоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* На усходнім Семіградзкім фронці — спакойна. У палудзенных граніччных гарах, ня гледзячы на туман і мяцеліцу, трываюць бітвы. На поўначы ад Камполунг і пры Бэршэнах, на поўначы ад Орсовы, румыны дарэмна прабавалі адваевваць утрачэные вяршыны.

Ад 10 кастрычніка армія генэрала Фалькенгэйна, апрыч вялікаго чысла розных ваенных матэр'ялоў, узяла ў румыноў 151 афіцэра, 9920 салдатоў, 37 гармат, 47 кулемётоў і 1 знамя.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: У Добруджы—без перамен.

*Македонскі фронт:* Пасьля пачатковых удач, сэрбскіе атрады ў закруці рэкі Чэрнай адкінуты боўгарскім войскам назад с цяжкімі стратамі.

1.XI. **Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: На Сомме ізноў выяўляецца вострая работа артылеры. У вечары англічане штурмавалі вялікімі сіламі ў ваколіцах Курсэлет, на лініі Гэдэкур—Лебэф. На поўначы ад Курсэлет с прычыны нашаго зашчытнаго агня штурм не развінуўся. На заходзі ад Транслюа ён зломлен з вялікімі стратамі,—ў паадзінокіх пунктах ў штыкавой бітве.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На абапол Маасу артылерыйскі агонь момэнтамі ажыўляўся.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Проці здабытых намі 30 кастрычніка пазыцій на ўсходнім березі Нараёўкі расейцы пад вечар, пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі, вялі пяць разоў сільные контратакі. Усе яны крывава адбіты. Турэцкіе войскі гэтак сама здалелі удзержаць здабытые пазыціі, ня гледзячы на сільные атакі. У адным мейсцы шыбкай контратакай яны выкінулі назад уварваўшыхся ворагоў. Пры Быстрыцы Солотвянскай аўстрыяцка-вэнгерскіе войскі адбілі агнём атрады ворагоў.

*Фронт эрц-гэрцога Кароля:* У Семіградзіі агульнае палажэньне не зьмянілося. На заходзі ад дарогі Прэдэаль аўстрыяцка-вэнгерскіе палкі дайшлі важнай удачы: яны ўварваліся на румынскіе пазыціі і здабылі 10 пешых гармат і 17 кулемётоў. На палудзенным усходзі ад праходу Чырвонай Башні мы атакаю пасунуліся ўпярод.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: Без прыпадкоў.

*Македонскі фронт*: У закруце Чэрнай і на адрэзку Бутково—возеро Тагіно артылерыйскі агонь узмацаваўся.

---

### Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 30. X. **Усходні тэатр**: Фронт эрц-гэрцога Кароля: Пры Орсове нічога новаго. На палудзенным заходзі ад праходу Шурдук расейцы адцесьнілі адну з нашых баевых груп на некольки кілёмэтроў назад. На палудзенным усходзі ад Чырвонай Вежы мы пашырылі свае удачы. На поўначы ад Камполунга адбіты наступленьня румыноў. На вэнгерскай усходняй граніцы баевая работа аслабела.

Фронт Леопольда Баварскаго: Пры Пустомытах расейцы пасьля кароткаго, але вострага артылерыйскаго агня прабавалі зрабіць массовы штурм. Іх колонны разбіты часьцю перад нашымі загарадзямі, часьцю пры самых загарадзях. Падобне-ж зломлен удар ворагоў проці Шэльвова.

**Італьянскі тэатр**: С прычыны невыгодных варункоў для нагледаньня работа ворагоў на прыморскім фронці выяўлялася слабей.

ВЕНА 31.X. **Усходні тэатр**: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: Часьці прыморскаго фронту знаходзяцца пад артылерыйскім і мінным агнём. У Тыролі атака альпійскаго батальёна проці Гардіналь адбіта, зрабіўшы ворагам многа страт.

**Гл. тэлеграмы на 4 страніцы.**

*Вільня, 3 лістапада.*

У сваей гутарцы с карэспандэнтам венскай газэты «N. Freie Presse» Гіндэнбург, між іншым, сказаў: „Я з радасьцю вітаў выступленьне Румыніі“. Гэтымі славамі ён выказаў ня толькі сваю думку, але і думку шмат каго з ваенных: як ні дзіўна гэта, а выступленьне Румыніі шмат палепшыло стратэгічнае палажэньне сярэдня-эўропэйскіх гасударств. Аб палітычным выігрышы, каторы выяўляецца ў тым, што Боўгарыя, прымушэная адгэтуль ваеваць за самы свой дзержаўны быт, ешчэ крапчэй зьвязала сваю долю з доляй Нямеччыны і Аўстрыі, німа што і казаць: ён разумеецца сам сабой.

Сягоньня, калі ўжо мінуло 9 тыднёў ад часу выступленьня Румыніі, ваеннае палажэньне сярэдня-эўропэйскіх дзержаў—лепшае, чым яно было перад тым.

У апошніе дні можна заўважыць нейкую задзэржку ў пабедным паходзі на Румынію—на палудзенным і заходнім фронці апошняй. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, патрэбай даць адпачыць войску пасьля шыбкіх пераходаў і гарачых бітв у апошніе тыдні, з другога боку — спробай Расеі за ўселякую цэну памагчы Румыніі ў крытычны момэнт. 3-го кастрычніка нямецкае офіцыальнае апавешчэньне, кажучы аб бітвах пры Корытніцы, гаварыло: „Чацьвёртаго сібірскаго корпуса на расейскім фронці не было больш відаць“. І вось з Боўгары ідуць весткі, што ў бітвах у Добруджы ўзяты ў палон расейцы, каторые прыналежаць да 4 сібірскаго корпуса. Надзея на тое, што расейцы паддзержаць разбітые румынскіе арміі, каторые становяць левае крыло расейскаго фронту, аслабляючы дзеля гэтаго нават свой галіцкі і валынскі фронт,—споўнілася. Пацьвярдзіло гэта яшчэ і тое, што ў апошнім часі ў расейскіх офіцыальных апавешчэньнях—побоч са старай рубрыкай: „у Добруджы“ — заведзена новая: „на румынскім фронці“. Відаць, што заходні румынскі фронт прыслухае расейскаму генэральнаму штабу. Што найважнейшы цэнтр расейскаго фронту перасунуўся з валынскаго адрэзку, гэта пацьверджае і «Реч», пішучы, што паводлуг думкі ваенных аўторытэтоў „с прычыны дрэннай пагоды“ на палудзенным фронці опэрацii сёлета павінны спыніцца Гэта найбольш адносіцца да адрэзкоў Сьвінюхі—Куропатнікі, Бэрэжаны і Галіч.

Але не адна Расея клапоціцца аб Румыніі. Тэлеграф прыносіць вестку, што, прыбыўшы ў Румынію, англіцкі фэльдмаршалак Фрэнч будзе маршалкаваць на вялікай ваеннай нарадзі, на каторай будуць вышэйшые расейскіе, англіцкіе і францускіе афіцэры, між імі – францускі генэрал Бэртэлё. І ўсё гэта паказвае, што сярэдня-эўропэйскіе дзержавы, наступаючы далей на Румынію, павінны спаткаць тут—асабліва на палудзеннай часьці Семіградзкаго фронту — самы сільны адпор. Апошніе бітвы ў і каля праходоў цераз Карпаты адкідаюць нават цень сумлеваньня. Але, ня гледзячы на моральную і матэр'яльную паддзержку Румыніі яе саюзьнікамі, палажэньне румынскіх войск ня толькі ў Добруджы, але і на заходзі астаецца і на далей вельмі сур'ёзным.

## Шануйце роднае слова!

Роднае слова! З малых дзён чуем мы цябе з матчыных вуст. Ты нам тлумачыш усе дзівы сьвету, якіе дзіцячае вока бачыць навакол сябе першы раз. У табе выказываем мы свой дзіцячы жаль, крыўду, жаданьне, радасць...

Што можэ быць даражэй сэрцу чэлавека, як у сталых гадох пачуць цябе, роднае слова, ў чужой старане? Здаецца, бытцым з далёкай чужыны пераносіш ты нас у родны край — родну вёску, дзе мы ўзрасьлі, дзе першые думкі складалі, дзе гора і радасць першы раз спазналі...

Чаму-ж, роднае слова, гэтак часта забываюць цябе людзі—нават тут, між сваімі? Чаму сыны нашаго народу так лёгка адрэкаюцца ад матчынай гутаркі?

Кажуць: бо цёмны нашы беларусы. Але гэта няпраўда: забываюць родную мову, адрэкаюцца бацькоў і братоў сваіх найбольш тые, хто дайшоў навук, выйшоў у людзі. Яны ня цёмны: яны пераймаюць чужое – дзеля карысьці.

У сэрцы гэткіх людзей загасла любоў да свайго народу і роднай мовы. Дачэсная карысць, жаданьне пашаны ў чужых, сьмешны гонар—усё гэта заняло мейсцо ў апусьцеўшай іх душы. А за іх прыкладам і наша вясковая моладзь, наламываючы сябе, пачала праз несьвядомасць чурацца таго, што яе выдзеляе с-паміж іншых народоў, пачала глядзець на усё сваё, роднае чужымі вачыма, думаючи, бытцым гэта добра, калі людзі «вышэйшых станоў» так робяць..

Але німа на сьвеці такіх скарбаў, што-б вечна цешылі нашае сэрцэ. Хваробы, калецтвы, сьмерць паказваюць, якую малую цану маюць дастаткі, гонар, высокае становішчэ. Здрада, ашуканства—вось адплата за прыязнь і любоў да «вышэйшых» ад нас. Чым больш пазнаем мы сьвет, тым меншую цану маюць для нас яго скарбы, тым болей бачым благога, болей зьдзеку, крыўд і сьлёз...

Бедны той, хто апрача грошы, апрача багацьця, каторае пры першым нешчасьці счэзьне да званьня, ня мае скарбаў вечных—скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здалее, гэта любоў да Бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы, — гэта вялікае міланьне чэлавека — слабога, пакрыўджэнаго.

Яркім полымем гарыць такая любоў у душы, сагрэвае яе, асьвятляе дарогу ў жыцьці. Хто любіць свой народ, хто ў кожным бачыць брата-чэлавека, той не сагнецца перад крыўдай, перад зьдзекам: ён бачыць навакол сябе мільёны падобных сабе, і яго думкі, яго жаданьня зліваюцца з думкамі і жаданьнямі вялікай людзкой грамацы. Такі чэлавек ніколі ня будзе адзін—самотны і пакінуты.

Але поруч з любоўю да сваіх братоў патрэбно ешчэ нешта, што злучае людзей у суцэльны народ: гэта—родная мова.

Яна, бытцым цэмэнт, звязывае людзей. Яна дае ім найлепшы спосаб разумець адзін аднаго, аднэй думкай жыць, аднэй долі шукаць. Хто адрокся мовы бацькоў сваіх, хто узьдзеў чужую апратку — той адышоў ад народу далёка — далёка. Ен чужы ў роднай вёсцы, у сваей сям'і. І на яго браты глядзяць, як на чужынца..

Да нашай моладзі звертаемся мы з гэтымі славамі. Вы, маладые, найчасьцей пападаеце між чужых людзей, што вашай мовы не шануюць, «простай» – «мужыцкай» завуць. З вас часта насьмехаюцца, калі гаворыце па свойму. І вы, чуючы гэта, пачынаеце сароміцца матчынай мовы, свайго народу, сваей радні — Так разрываецца тая жывая зьвязь, што злучае вас з беларускім народам. Аб ім вы забываеце. Чужых багоў прыймаеце: чужую гутарку, звычаі, чужое імя.

Для сваіх вы прападаеце. Адны служаць чужым — бо свайго бога ня маюць, бо ад вялікай грамады народнай адарваліся, як галіна ад дрэва. Другіе—затым, што добрую плату даюць ім... Але німа такой заплаты, што дае забыцьцё аб здрадзе: Юдавы срыбнікі ня ўцешаць іх, калі, змогшыся жыцьцём і нешчасьцямі, захочуць яны знайсьці спакой душы, сагрэць яе чыстай любоўю.

Быў у нас песьняр, што ў час сьпячкі народнай першы адважыўся клікаць беларусоў, каб шанавалі мову бацькоў і дзядоў сваіх. «Ня кідайце мовы сваей, каб ня ўмёрлі» — пісаў Мацей Бурачок да беларусоў. І гэты окліч збудзіў прыспаные сэрцы. Народ прачнуўся. Ен пазнаў, хто ён. Родная мова яго — загнаная, пагарджаная — паднялася высока і стае ўжо поруч с «панскімі» мовамі. І здабывае пашану ў людзей: людзі бачуць, што мы яе шануем, што яна для нас мае вялікую цану, — ды самі пачынаюць інакш глядзець і на нас, і на яе.

На вас—моладзі—ляжыць валікая павіннасць: развіваць далей родну мову, узбагачываць свой народ знаньнем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю с тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі ня кідайце роднай мовы: бо запраўды, для свайго народу тады вы ўмёрлі!

Мейце сілу і адвагу дзержацца роднаго слова. Мейце сьмеласць усюды голасна казаць па свойму. І—гледзючи на вас—асьмеляцца і іншые, зразумеюць, што шчырае сэрцэ беларускае б'ецца ня толькі пад мужыцкай сермягай. паверуць у ўласные сілы свае і пойдуць цьвёрдай ступой да лепшай будучыны, да ясных зор шчасьця народнаго. *А. Н.*

## У Вільні і ваколіцах.

—

× **«Дзяды».** У гэты чецьвэр мы сьвяткавалі адвечнае нашэ сьвята «Дзяды». Гэта—дзень памінак па нашых памершых сваякох і блізкіх людзях, сьвята еднаньня жывых і даўно зыйшоўшых са сьвету пакаленьнёў. Гэта—найбольш яркая праява веры нашаго народу ў несьмяртэльнасць душы.

Паводлуг старога звычаю, ў нас усе ідуць на могілкі, паляць на

**Максім Горэцкі.**

# Наш тэатр.

(Гл. «Гоман» №№ 55—69).

Пісьменнік наш, пішучы драматычны твор, маець доўг перад Беларусьсю абгладзіць, як дарагі камень, кождае слоўца, „зважыць, абсмакаваць і ўцяміць сілу яго“. Ен павінен дбаць аб прыгожасьці мовы не прыдуманай, а праўдзівай, бо прыдуманае—неўдалае і ў мові дужа прыкра. Пісьменнікі нашы павінны ведаць той багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўные за гэткую працу дабрадзеі: Носовіч, Шэйн, Романоў, Карскі і др. Пісьменнікі беларускіе! пільней прыслухівайцеся к мові людзей нашых на рынку, на кірмашы і ўсюдых-усюдых, і тые, што жывецё на захадзі Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе ўсходзі, а ўсходніе пабывайця на захадзі. Як кругаварот крыві ў целі чэлавецкім даець здароўе арганізму, так гэты пэрэліў нашых сіл на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым.

А вы, жрэцы у Храмі Нашаго Адраджэньня, каторые ўжо ёсць і каторых ешчэ народзіць Бог, вы, лепшые пчолкі з рою млада-беларусаў, мастакі і штукаркі тэатру беларускаго, вы асобенна вучыцеся мовы і дбайця аб яе сіле і прыгожасьці!

Вы, настаўнікі красамоўства і прыгожай гаворкі, тое, што вы скажэце добра са сцэны, з вялікаю сілаю укладзецца ў душу беларускую. Гэта маець ой якую вагу цяпер, у нашы ўжо, дзякуй Богу, даволі развіднеўшые досьвіткі. Сумна, калі ўсенародна калечыцца наша мова; сэрцэ весяліцца, калі чуем мову слаўную, правільную.

VIII.

Цяпер украінская песьня у славе і пашане: пяюць яе далёка за межамі Украіны. А ці даўно тое было, што аб песьні украінскай шырокае грамадзянство і ня чуло, і калі гэта песьня была толькі добрым матэр'ялам для этнографа, а пеў гэту песьню сумны „хлебароб“, ды адзінота - чумак у шырокім стэпу са сваімі „валэ“, ды адвага-запарожэц, ды цёмнавалосая, з глыбокімі вочкамі весна-Маруся.

Так і нам задурылі галаву, што песьня наша аднатонна.. Эх, вы! Калі змешаць многа колероў, то так сама выйдзець шэра. Ды і хто, папраўдзі, многа чаго знаець аб беларускіх „аднатонных“ скоках і аб беларускай песьні? Што дзівіць: ёсць беларусы, каторые, выляцеўшы з роднаго гнезда з ешчэ жоўценькай дзюбачкай, саўсім ня ведаюць свайго гнезда. Паночкі, калі спаткаеце гэтаго блазнотку, дайця вы яму хаця „Пѣсьні бѣлорусскія“ Носовіча, або Романова, або ешчэ якога этнографа, пакажыця яму нашы песьні з нотамі, пазавіце вы яго на беларускую вечарынку, а то прывязіця вы яго к нам у слаўную нашу Мсьціслаўшчыну, ці у другі куток Магілёўшчыны: ніхай ён пасмакуець, які пышны там культ свадзёбных песень, ніхай ён пасядзіць у цікавейшай опэры — на беларускім вясельлі.

Дык вот трэба, каб са сцэны беларускаго тэатру палілася беларуская песьня, каб ад яе павеяло на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі, каб пачулася ў ёй турлычлівая песьня жаўраначка пад вясеннім небам, над зялёнай руньню, каб ў ёй пачуўся і далёкі, спакойна-тужлівы гук бяроставай трубы хлопчыка, што кароў пасець каля рэчкі, і шум бязконца лясоў непраходных, і „шэпты сьпелых каласоў“, і звон серпа, і „ўжык! ды ўжык!“ касца ў дуброві, каб чэлавек пазнаў у ей красу беларускіх палёў з горкамі-калатоўкамі ды курганамі старасьвецкімі, лагчынкамі, мурожкамі-сенажаткамі, гайкамі, каб у ёй заблішчэла серабром ціхая рэчка, у каторую ціхамірна глядзіцца старая верба, а хлопчык сядзіць на беразі і ў дудачкі іграець..

(Канец будзе).

